# Голас Радзімы

4 ЛЮТАГА 1999 ГОДА

220005, Мінск,
праспект Ф. Скарыны, 44.
Цана 17000 рублёў.

№ 5
(2615)

Штотыднёвая газета
для суайчыннікаў за межамі Беларусі.
Выдаецца з 1955 г.


НА МЯЖЫ СТАГОДДЗЯЎ

## Ігар ГОЛУБЕЎ: «ХАЦЕЛАСЯ Б, КАБ АД РАБОТ МАІХ СТРУМЕНІЛАСЯ ЦЯПЛО, КАБ ЯНЫ ЗАКРАНАЛІ ЛЮДЗЕЙ...»

***Аб такім старце, як у яго, можна толькі марыць. Ігар ГОЛУБЕЎ — выхаванец вядомых беларускіх скульптараў А. Арцімовіча і А. Анікейчыка, выпускнік тэатральна-мастацкага інстытута 1990 года. Яго дыпломная работа “Вечны вандроўнік” — помнік Язэпу Драздовічу (архітэктар В. Марухін) — стаіць у адным з самых прывабных куточкаў нашай сталіцы — Траецкім прадмесці. Факт, бадай, адзіны за ўсю гісторыю існавання навучальнай установы.***

***Натуральна, наша размова пачалася з такога выдатнага пачатку творчай біяграфіі маладога скульптара.***



**— Чаму менавіта Язэп Драздовіч стаў вашым выбраннікам!**

— У нейкай ступені гэта адбылося выпадкова. Па сутнасці, я адкрыў для сябе гэтага унікальнага чалавека, мастака, пісьменніка, матэматыка і філосафа на юбілейнай выставе ў мастацкім музеі. Работы Драздовіча — дзіўны свет. Захацелася як можна болей даведацца пра гэтага чалавека. А тут яшчэ выпадкова пачутая фраза: “Такія людзі — гонар нацыі, а дагэтуль ні бюста, ні помніка яму няма...” Мяне гэтыя словы закранулі, быццам яны да мяне асабіста былі звернуты. А калі пачытаў дзённікі Язэпа Драздовіча, яшчэ больш зацвердзіўся ў думцы, што я павінен зрабіць гэты помнік.

**— Мне асабіста сімпатычна ў гэтай вашай рабоце, акрамя ўсяго іншага, тое, што вы адышлі ад стандарту гранітных і бронзавых веліканӑў. Чым прадыктавана гэта!**

— У меншым — больш цеплыні... Жаданне выказаць шматграннасць унутранага жыцця гэтага чалавека прадыктавала ўсё астатняе. Мноства эскізаў зрабіў, пакуль не дабіўся аб'яднання фантазій і рэальнасці задум Язэпа Драздовіча. Проста неверагодна! Гэты летуценнік і вандроўнік выдаў кнігу “Нябесныя бегі” з уласнаручнымі матэматычнымі разлікамі касмічнага палёту. З'явілася задума змясціць вечнага вандроўніка пад крону дрэва. Яго карані — гэта Зямля, а магутная крона імкнецца ў космас.

**Трэба сказаць, помнік, адліты ў бронзе, устанавілі ў 1993 годзе ў Траецкім прадмесці зусім не выпадкова. Тут, на Траецкай гары, некалі знаходзілася вышэйшая жаночая школа, у якой Язэп Драздовіч выкладаў урокі малявання. Да нас дайшоў адзін з ягоных малюнкаў таго часу “Краявід з Шпітальна-Траецкага завулку”. І стаіць цяпер вечны вандроўнік, вучоны і мастак, углядаючыся ўдалечыню, а перад ім разгортваецца панарама горада, зусім іншая, чым на пачатку XX стагоддзя. Бо мала што захавалася з аблічча старога горада, таго, што надае яму непаўторнасць і “твару неагульны выраз”. Якім жа ён будзе ў новым тысячагоддзі — ці зможам мы захаваць рэшткі былой прывабнасці, чараўніцтва, непаўторнасці, арганічна ўпісаць новыя рысы!!.**

**Гэта ў нейкай ступені залежыць ад Ігара Голубева, ягоных калег.**

**Пасля заканчэння інстытута малады скульптар адправіўся па размеркаванню ў горад Оршу. І вельмі своечасова туды прыбыў, бо ў горадзе на той час быў абвешчаны конкурс на праект памятнага знака, які меркавалася ўстанавіць на месцы дома Караткевічаў той пары, калі Валодзя вучыўся ў школе. Ігар Голубеў адлюстраваў у сваім эскізе тое, што палічыў неабходным, і вынік атрымаўся адпаведны: замест знака ўстаноўлены помнік.**

— Наталля Сямёнаўна, сястра пісьменніка, выбрала мой эскіз. І, натуральна, я вельмі хваляваўся: ці спраўлюся? Я прапанаваў зрабіць бюст Валодзі Караткевіча з кнігай у руках і фон — фрагменты з ягоных будучых твораў “Дзікае паляванне караля Стаха”, “Замак Альшанскі” і “Зямля пад белымі крыламі”. А пастамент для бюста — у выглядзе часткі зруба хаты. Праўда, напачатку Наталля Сямёнаўна прапанавала: “А можа, не паказваць літаратурны свет яго твораў, бо гэта ж было пазней. Паспрабуйце без гэтага”. І ўсё ж потым яна зразумела, што ўвасобленыя фрагменты твораў надаюць нейкую завершанасць, цэльнасць. Адным словам, помнік атрымаўся такім, якім я яго і задумваў.

**— Ігар, вы задаволены вынікам гэтай работы!**

— І вынікам, і самім працэсам, бо гэта дало магчымасць пазнаёміцца з Наталляй Сямёнаўнай, якая шмат расказвала пра Караткевіча школьнай, юначай пары. Бюст устаноўлены ў Прыдняпроўскім парку. Да яго ўвесь час падыходзяць людзі не толькі кветкі пакласці, але і проста пастаяць — адчуванне такое, быццам адбываецца нячутная размова... І гэта цудоўна!

**— А што вам больш за ўсё даспадобы з твораў Караткевіча!**

— “Дзікае паляванне...” і “Замак Альшанскі” — у іх так па-майстэрску закручаны дэтэктыўны сюжэт і разам з тым найцікавейшыя экскурсы ў гісторыю нашу.

**— Вам таксама ў нейкай ступені даводзіцца гэтыя экскурсы рабіць, калі вы берацеся за чарговую работу, бо кожная прысвечана канкрэтным людзям і падзеям.**

**Наколькі я ведаю, адна з вашых апошніх работ — помнік Напалеону Ордзе. Аб гэтым дзіўным чалавеку, музыканце і мастаку, які сябраваў з Лістам, Шапэнам і Міцкевічам, у нас дагэтуль мала што вядома шырокаму колу. А між тым аб ягоным яркім і рамантычным жыцці трэба тэлесерыялы здымаць і раманы пісаць...**

— Так, цалкам з вамі згодны. Жыццё Орды незвычайнае.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

ЮБІЛЕЙ



## «KHOROSHKY» — ГЭТА РАДАСЦЬ, ГЭТА СВЯТА...

*Улічваючы, што паклоннікаў у “Харошак” шмат і ні адна зала не ўмесціць іх адразу, калектыў яшчэ напрыканцы мінулага года, напярэдадні свайго юбілею, даў некалькі канцэртаў у сталіцы. А само святкаванне адбывалася 22 і 25 студзеня на роднай сцэне Белдзяржфілармоніі і ў Нацыянальным акадэмічным тэатры оперы і балета.*

4 стар.



## Тыдзень: Фотафакты. Падзеі.



Дзяржаўная камісія ў Віцебску прыняла ў эксплуатацыю адноўленую Благавешчанскую царкву. Гэты выдатны помнік архітэктуры і скульптуры XII стагоддзя значна пацярпеў у другую сусветную вайну і ў пасляваенны час. Затым быў закансерваваны.

Благавешчанская царква ў Віцебску — дзясяты па ліку праваслаўны храм Беларусі, які аднаўляе дзяржава.



●

Надзея ПЕТРУШКО з пасёлка Руба, што пад Віцебскам, вышывае не толькі арыгінальныя ручнікі і дываны, але таксама іконы. На рэспубліканскім фестывалі народнай творчасці "Беларусь — мая песня", што ўпершыню праходзіў у мінулым годзе, яе іконы былі адзначаны спецыяльным дыпломам.

●



У Міністэрстве па надзвычайных сітуацыях адбылася прэс-канферэнцыя "Навука і Чарнобыль. Аб распрацоўках беларускіх вучоных і вынаходнікаў, якія садзейнічаюць ліквідацыі вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС". У рамках гэтай праблематыкі была арганізавана і выстава распрацовак і даследаванняў 72 навукова-даследчых арганізацый і лабараторый.

*На здымку: дырэктар — галоўны канструктар фірмы "Атамтэх" Валерый КАЖАМЯКІН дэманструе новую канкурэнтаздольную распрацоўку прадпрыемства — медыцынскі дазіметр рэнтгенаўскага і гамаўскага выпраменьвання "ДКС-АТІ 123".*

**Фотахроніка БелТА.**

## БЕЛАРУСКАЙ ВІЛЕНСКАЙ ГІМНАЗІІ — 80

**У гэтыя дні ў Вільні вельмі шырока адзначаецца 80-годдзе Беларускай віленскай гімназіі. Праіснавала яна 25 год і пакінула вялікі след. З яе станаўленнем і гісторыяй звязана шмат знакамітых беларусаў. Сёння хочацца ўспомніць пра аднаго з іх, выкладчыка і дырэктара гэтай гімназіі, нашага сучасніка, навукоўца Барыса Кіта.**

У верасні 1928 года Барыс Кіт паступіў у Віленскі універсітэт імя Стэфана Баторыя, а ў 1933-м скончыў яго са ступенню магістра матэматыкі. З другога курса пачаў браць актыўны ўдзел ва універсітэцкім жыцці і ў беларускім руху, супрацоўнічаць з Б. Тарашкевічам, У. Дварчаніным, П. Пестраком, Р. Шырмай, Рак-Міхайлоўскім. Яго захапіў адраджэнскі рух. Б. Кіт лічыў, што галоўная роля ў гэтым руху павінна адводзіцца асвеце і ведам, таму і заняўся арганізацыяй беларускага школьніцтва. Сам жа ён у гэты час вучыўся на трэцім курсе, вучыўся вельмі добра, праявіў сябе дасведчаным чалавекам не толькі ў сваёй любімай матэматыцы, але меў грунтоўныя веды і ў іншых галінах, добра ведаў гісторыю, даўніну Беларусі.

Барыс Кіт працаваў настаўнікам гімназіі да 1939 года. Якія толькі захады ні рабіліся ўладамі, каб скампраметаваць маладога выкладчыка, якога вельмі любілі вучні і бацькі, супрацоўнікі, — нічога не атрымалася. І нягледзячы на напады, настаўніцкія гады Барыса Кіта былі плённымі і шчаслівымі.

У 1939 годзе, калі Беларусь аб'ядналася, а Вільня была перададзена Літве, Барыса Кіта прызначылі дырэктарам гімназіі. Колькі беларусаў было ім падтрымана, колькі адукаванай моладзі выйшла са сцен гімназіі! Здавалася, што чалавек знайшоў сябе — жыві і працуй без турбот. Але лёс змяніла вайна. Барыс Кіт апынуўся ў разбуранай вайной Заходняй Еўропе. Трэба было пачынаць жыццё з нуля. Пераезды з краіны ў краіну, з кантынента на кантынент, але калі чалавек адораны ад прыроды талентам і працавітасцю, мэтанакіраваны — ён нідзе не згубіцца і не загіне.

Сёння наш зямляк, віленскі настаўнік — вядомы ў свеце вучоны. Ён доктар філасофскіх навук, акадэмік Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі, віцэ-прэзідэнт Міжнароднай акадэміі Еўразіі, ганаровы сябра Брытанскага і Нямецкага міжпланетных таварыстваў, прафесар Вашынгтонскага Мерылендскага універсітэта, ганаровы сябра Таварыства беларускай культуры ў Літве, муж, бацька, дзядуля і прадзед, вельмі малады і гарэзлівы ў свае 89 год чалавек. Усё жыццё яго прысвечана людзям, міру, беларушчыне.

Барыс Кіт мае намер абавязкова прыехаць у 2000 годзе ў Вільню для сустрэчы са сваімі былымі вучнямі, сябрамі. Ён прыедзе ў горад стайго станаўлення, дзе будзе адзначацца яго 90-годдзе. А сёння мы паступова адраджаем беларускую гімназію ў выглядзе беларускай сярэдняй школы імя Францішка Скарыны.

Здароўя Вам, паважаны дырэктар, і да сустрэчы ў славутай Вільні.

**Паўла САЎЧАНКА.**

## МІНСК, ЗАХАРАВА, 28. ДОМ ДРУЖБЫ

**15 СТУДЗЕНЯ** адбылося пасяджэнне праўлення Асацыяцыі парадненых гарадоў. На ім была заслухана інфармацыя аб рабоце III Міжнароднай канферэнцыі па Праграме TASIC — Парадненыя гарады, што адбылася ў Кіеве.

Разгледжаны таксама пытанні па Трэцяй сустрэчы беларуска-нямецкіх гарадоў-пабрацімаў, што мае адбыцца ў Мінску ў чэрвені гэтага года і аналагічнай Другой беларуска-расійскай сустрэчы, плануемай на восень у г. Бранску. На беларуска-нямецкай сустрэчы мяркуецца абмеркаваць наступныя пытанні: вопыт камунальнай работы гарадскіх улад Германіі і Беларусі, а таксама праблемы, звязаныя з аказаннем сацыяльна-эканамічнай падтрымкі насельніцтву Беларусі.

* * *

Адбылася прэзентацыя кнігі Віктара Скорабагатава "І заігралі спадчынныя куранты". Гэта шостая кніга з серыі "Вяртанне", якая выдаецца па ініцыятыве Фонду культуры і Скарынінскага цэнтра.

Віктар Скорабагатаў, заслужаны артыст, саліст Нацыянальнай оперы, адначасова з'яўляецца стваральнікам і музычным кіраўніком надзвычай цікавага тэатральна-канцэртнага аб'яднання "Беларуская капэла". Галоўная задача капэлы — збор і распаўсюджванне гісторыка-культурнай інфармацыі. За восем гадоў сабрана шмат унікальнага матэрыялу, што тычыцца музычнай культуры Беларусі XVI—XIX стагоддзяў. Віктар Скорабагатаў унёс сваю лепту ў работу па адшукванню рэдкіх нот, слядоў забытых і паўзабытых аўтараў і іх твораў. Многае з таго і стала асновай цікавай кнігі.

На вечары-прэзентацыі ў выкананні салістаў опернага тэатра і Белдзяржфілармоніі гучала музыка беларускага Адраджэння.

* * *

**21 СТУДЗЕНЯ** ў Данію адбыла дэлегацыя Беларускага таварыства дружбы для ўдзелу ў семінары па дэмакратызацыі грамадскага жыцця і правядзенні Дзён культуры Беларусі. У рамках дзён прайшлі выступленні вядомага ансамбля "Купалінка" і выстава сувенірнай прадукцыі Маладзечанскай фабрыкі мастацкіх вырабаў.

Акрамя семінара члены дэлегацыі прынялі ўдзел у сустрэчах у мэрыі горада Рынгкёбінга, з міністрам культуры Даніі, дацкімі палітыкамі, наведалі таксама адну з гімназій, каледж і інстытут павышэння кваліфікацыі.



*Выступае "Купалінка".*

*Фота Я. КОКТЫША.*

* * *

**27 СТУДЗЕНЯ** ў канцэртнай зале Дома дружбы сабраліся паклоннікі геніяльнага польскага кампазітара Фрэдэрыка Шапэна. Яго творы прагучалі ў выкананні вядомых беларускіх музыкантаў, лаўрэатаў міжнародных конкурсаў. Канцэрт, наладжаны Домам дружбы сумесна з Польскім інстытутам, першы з цэлай серыі аналагічных, якія пройдуць на працягу ўсяго 1999 года, які ЮНЕСКА абвясціла годам Фрэдэрыка Шапэна.

* * *

**2 ЛЮТАГА** адбылося святкаванне Ту бі-шват — яўрэйскага свята новых дрэў, калі кожны ізраільцянін павінен абавязкова пасадзіць хоць бы адно дрэўца. Наша вясна не супадае з гэтым святам, таму галоўным на ім былі сустрэча актыва таварыства "Беларусь — Ізраіль" з пасолам гэтай краіны, прадстаўнікамі яўрэйскіх арганізацый, культурнага цэнтра.

* * *

**4 ЛЮТАГА** разам з кітайскімі сябрамі святкуецца надыход вясны па месячным календары, а таксама 7-я гадавіна ўсталявання дыпламатычных адносін паміж Беларуссю і Кітаем. А яшчэ з 4 лютага пачынаецца Тыдзень культуры Кітая. У рамках тыдня ў Доме дружбы адбудуцца мастацкая і фотавыстава, паказ відэафільмаў аб Кітаі.

* * *

У Доме дружбы праходзіць таксама выстава "Ведай свой край" самадзейнага мастака Уладзіміра Голуба. Дагэтуль у розныя гады мастак выстаўляўся ў Дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі, галерэі "Медзя", у Дзіцячым фондзе, дзіцячых дамах Мінска. Уладзімір Голуб стварыў вялікую серыю жывапісных работ, прысвечаных Мінску і яго наваколлю.

Ён тлумачыць тое, што ім рухае, так: "Я хачу бачыць у звычайных рэчах нешта большае, чым яны ўяўляюць сабой. А магу гэта таму, што я іх па-свойму люблю, прыцягваю сваімі пачуццямі. Духоўнасць — гэта любоў. Сам працэс творчасці духоўны, таму што існае мастацтва — гэта шлях да Бога, да Любові".

**Марта КОСЦІЧ.**



# Ігар ГОЛУБЕЎ: «ХАЦЕЛАСЯ Б, КАБ АД РАБОТ МАІХ СТРУМЕНІЛАСЯ ЦЯПЛО, КАБ ЯНЫ ЗАКРАНАЛІ ЛЮДЗЕЙ...»

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Паездзіўшы па Еўропе, пажыўшы там, ён усё ж вярнуўся ў родныя Варацэвічы. Энцыклапедычнасць ведаў гэтага чалавека ўражвае. Як мастак Орда мне цікавы перш за ўсё сваёй прапрацоўкай дэталяў і прасторы. Адным словам, я ўдзячны лёсу за тое, што мне выпала такая работа.

**— Гэта быў афіцыйны заказ!**

— Я працаваў над скульптурай архангела Міхаіла па заказу аднаго з новых багатых мецэнатаў (скульптура ўстаноўлена ля касцёла святых Сымона і Алены ў Мінску), калі мне патэлефанавалі з Іванава. Ім даспадобы мой Драздовіч, і яны прапанавалі, каб менавіта я папрацаваў над эскізам будучага помніка Напалеону Ордзе. Але пры гэтым сумленна папярэдзілі, што грошай на сам помнік вельмі мала. Так што, калі я адмоўлюся, мяне зразумеюць. Натуральна, я не адмовіўся.

Мой Орда сузіральны, нетаропкі, сядзіць на пяньку, быццам прыслухоўваецца ў ледзь чутную песню ветру, спевы птушак і любуецца краявідам...

**— Вы робіце ўражанне ўдачлівага маладога скульптара, які з дня заканчэння інстытута без работы не сядзіць і ўсё ў яго о'кей!..**

— На жаль, я ўжо не адношуся да катэгорыі маладых, бо пераваліў за 35-гадовы рубеж. Наконт удачлівасці, багацця і г. д... Мой "Драздовіч" і "Архангел Міхаіл" — дар гораду Мінску. Напалеон Орда — хутчэй задавальненне душы, чым кашалька...

**— Ігар, а калі б вам далі цэлы горад — стварай, ляпі эстэтычнае аблічча яго праз тое, што вам падуладна — скульптуру, малую пластыку... Па шчасцю, з нашых сквераў і паркаў зніклі шматлікія гіпсавыя спартсмены і спартсменкі, гарністы, алені, мядзведзі і г. д. Але ж узамен так і не з'явілася цікавая паркавая скульптура. А вуліцы... Гранітныя веліканы — помнікі вартым і не вартым (як цяпер высветлілася) дзеячам проста прыгнятаюць...**

— Асабіста мой горад... Гэта было б выдатна! Але, на жаль, нерэальна.

**— І усё ж, што б вам хацелася зрабіць у вашым горадзе!**

— Каб яго ўпрыгожвалі скульптуры добрыя і прыгожыя. Бо мастак праз работы свае ўплывае на іншых людзей, а скульптар яшчэ фарміруе асяродак. Каб скульптуры мае закранaлі людзей, каб ад іх струменілася цяпло. Я вельмі баюся дапусціць у сваіх работах статыку, застыласць, якія нясуць мёртвы холад. Ну ўжо калі марыць, дык марыць! Хацелася б, каб я быў больш свабодны, каб работы былі не заказныя, а выбраныя мною самім. Адным словам, каб яны ў мяне былі больш ад сэрца. Пры гэтым хоць крышачку грошыкі якія-ніякія атрымліваць.

**— Жадаю вам з часам усё ж дасягнуць гэтай гармоніі духоўнага і матэрыяльнага.**

— Дзякуй. Як гаворыцца, марыць не шкодна.

**Адна з апошніх распрацовак Ігара Голубева — конкурсны праект мемарыяльнага комплексу "У гонар роднага слова", які мае быць узведзены ў нашай сталіцы. Скульптар і яго калегі ўяўляюць збудаванне сабе такім чынам: трох'ярусная цэнтрычная капліца. Ніжні ярус яе ў выглядзе крыжа, у нішах размешчаны чатыры бронзавыя скульптуры на поўны рост — Ефрасіння Полацкая, Кірыла Тураўскі, Францішак Скарына і Васіль Цяпінскі — найбольш яркія прадстаўнікі беларускага сярэднявечча. На другім ярусе — бронзавыя барэльефы з паяснымі выявамі Францішка Багушэвіча, Алаізы Пашкевіч (Цётка), Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Вацлава Ластоўскага, Браніслава Тарашкевіча і Уладзіміра Караткевіча — тых, хто, на думку аўтараў праекта, больш за ўсіх папрацаваў дзеля развіцця роднага слова.**

**Завяршае кампазіцыю трэці ярус, купал якога сімвалізуе Неба. Унутры скульптурная выява Божай Маці — заступніцы Мінска.**

Размову вяла
**Маргарыта СТАРЫХ.**

АСОБА

# ПРАФЕСАР АРЫНЧЫН

## ВЫРАШАЕ САРДЭЧНЫЯ ПРАБЛЕМЫ ПРЭЗІДЭНТАЎ

Было гэта ў 1991 годзе. Доктар біялагічных навук, прафесар Мікалай Арынчын убачыў тэлесюжэт аб тым, як бегае ранішнімі прэзідэнт ЗША Джордж Буш. І паслаў яму пісьмо, у якім сцвярджаў, што такі спосаб бегу можа адмоўна адбіцца на яго здароўі. Даў свае рэкамендацыі, а таксама паслаў публікацыі аб уласных адкрыццях у гэтым накірунку. Прагноз Арынчына аказаўся правільным: Буш трапіў у шпіталь з арытміяй сэрца. Неўзабаве беларускі вучоны атрымаў з адміністрацыі прэзідэнта ЗША пісьмо з падзякай, у якім гаварылася: "Без гэтага багацця інфармацыі прэзідэнту не ўдалося б так хутка і поўнасцю паправіцца пасля нядаўняй праблемы з сэрцам".

Член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі М. Арынчын кіруе групай экстракардыялогіі акадэмічнага Інстытута фізіялогіі. Яму належыць ідэя гомакібернетыкі — навукі адвольнага кіравання чалавекам сваім кровазваротам, а праз яго — здароўем і даўгалеццем. Калі коратка, сутнасць ідэі ў тым, што чалавек пазбаўлены магчымасці кіраваць работай свайго сэрца, але тым не менш здольны кантраляваць кровазабеспячэнне арганізма. Прычым без усялякіх лекаў, бо сэрца выконвае прыкладна 70—80 працэнтаў работы па цыркуляцыі крыві, а астатнюю частку бяруць на сябе шкілетныя мышцы. Менавіта імі прафесар Арынчын і вучыць кіраваць. Яго парады такія простыя, што іх можа скарыстаць кожны чалавек.

Прафесар Арынчын лічыць, што ад ранішняга бегу трэба адмовіцца ўвогуле, таму што раніцай згусальнасць крыві павышаная і гэта звязана з небяспекай утварэння тромбаў. Акрамя таго, у час сну сэрца працуе з перагрузкай, а ўсе мышцы адпачываюць. Таму людзі часта прасынаюцца з галаўным болем, дрэнным самаадчуваннем. А калі яшчэ і пабегчы, не будучы ідэальна здаровым?..

У сваім прагнозе Барысу Ельцыну прафесар Арынчын указвае, што "прэзідэнтам, людзям разумовай працы з маларухомым ладам жыцця і ва ўзросце, не паказана займацца тэнісам, таму што ён патрабуе ад чалавека высокіх спартыўных якасцей: сілы, хуткасці і вынослівасці шкілетных мышцаў і іх мікрапомпаў, добра скаардынаваных з работай сэрца". Яно перагружаецца і зношваецца, што рабіў у адносінах да сябе Б. Ельцын. Яшчэ Вальтэр пісаў: "Той, хто не паводзіць сябе адпаведна свайму ўзросту, заўсёды расплачваецца за гэта". Так і здарылася з Ельцыным.

**— Што ж вы прапанавалі Прэзідэнту Расіі! — пытаюся ў Мікалая Іванавіча.**

— Комплекс аўтагомакібернетыкі, г. зн. кіравання сваёй жыццядзейнасцю. Яго, дарэчы, можа выкарыстаць любы. Прачнуўшыся, трэба некалькі разоў пацягнуцца, каб "разагнаць" кроў, што застаялася ў органах. Потым устаць, падлічыць частату пульсу. Сесці на мяккі пуфік, упёрціся выцягнутымі нагамі ў што-небудзь і паступова адхіляцца назад з паваротамі пачаргова ўправа і ўлева галавой, плячамі і ўсім тулавам да гарызантальнага становішча з вяртаннем у становішча седзячы. Пачынаць трэба з некалькіх адхіленняў, а потым даводзіць іх колькасць да 100 і больш. Можна лёгка пераканацца, што пульс практычна не зменіцца. Гэта гаворыць аб надзвычайнай карысці практыкавання для сэрца. Раю таксама абліваіца халоднай вадой па метаду Іванова. Мы правяралі: імгненныя абліванні ніколі не выклічуць пераахаладжэння арганізма і прастудных захворванняў. Можна крыху і пабегаць, але ў другой палове дня і некалькі разоў на тыдзень. Бег карысны толькі, пакуль ён прыемны.

**— Наколькі мне вядома, вы аўтар канцэпцыі "стварэння здароўя". У чым сутнасць ідэі!**

— Пачынаць трэба з выхавання дзяцей. Міністэрства адукацыі, якое не адказвае за здароўе дзяцей, мэтазгодна б назваць Міністэрствам адукацыі і стварэння здароўя з ускладненнем на яго адказнасці не толькі за паспяховасць, але і за здароўе вучняў. Сёння ўвесь бюджэт часу ў школах аддадзены вучэбнаму працэсу, а на ўмацаванне здароўя адводзіцца ўсяго 2—3 гадзіны на тыдзень у форме ўрокаў фізкультуры. Гэта прыгнятае вучняў, вядзе даператамлення. Даўно пара скараціць гадзіны па існуючых прадметах, але ўключыць у праграмы новыя б дысцыпліны, якія пашыралі б кругагляд навучэнцаў, і абавязкова адмовіцца ад нерухомага спосабу навучання. Бо яшчэ ў Старажытнай Грэцыі настаўнікі з вучнямі хадзілі па беразе мора, абучаючы ў руху, а мы пасадзілі дзяцей за парты — двухмесны "карцэр" на 11 гадоў. Адсюль — пагаршэнне зроку, скрыўленне пазваночніка, сцісканне сэрца. У маёй праграме стварэння здароўя падрабязна апісана, як змагацца з нерухомым навучаннем.

Па словах прафесара Арынчына, шлях да прызнання яго ідэй не ўсеяны ружамі. Яшчэ гады тры назад група экстракардыялогіі, якую ён узначальвае, правяла эксперымент у некаторых мінскіх школах — колькасць захворванняў сярод вучняў знізілася на 30 працэнтаў. Але вырашылі, што эксперымент патрабуе працягу, школы маглі быць выпадкова адабранымі, нетыповымі. Тады група Арынчына паехала ў Вялікую Берастaвіцу Гродзенскай вобласці, там за год работы па методыцы прафесара недамаганні сярод школьнікаў знізіліся таксама больш чым на трэць. Акрылены Арынчын склаў праект закона па стварэнню здароўя беларускай нацыі — так ён яго назваў. Але толькі літаральна апошнія паўгода да яго ідэй сталі ўважліва прыслухоўвацца. Расшыраная праграма стварэння здароўя была адобрана Міністэрствам аховы здароўя, некаторыя яе палажэнні былі пакладзены ў праграму рэфармавання беларускай медыцыны. Існуе задума апрабіраваць метады абучэння прафесара Арынчына на вялікай групе сталічных школ. Можа, сапраўды, дзякуючы ім, мы здолеем знайсці правільны шлях да аздараўлення!

**Барыс САФРОНЕНКА.**
("Советская Белоруссия").

# ЛАЎРЭАТЫ ДЗЯРЖАЎНЫХ ПРЭМІЙ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ 1998 ГОДА

**У ГАЛІНЕ МАСТАЦТВА І АРХІТЭКТУРЫ:**

***за музычныя творы буйных і малых формаў, а таксама за канцэртна-выканальніцкую дзейнасць***

**ВАГНЕР Генрых Матусавіч,** кампазітар, народны артыст Беларусі, прафесар — за сімфонію № 4 для сімфанічнага аркестра і народнага хору, выкананую ў 1996 годзе;

***за шырока прызнаныя работы рэжысёраў, дырыжораў, балетмайстраў, хормайстраў, артыстаў, мастакоў, сцэнарыстаў, кампазітараў і драматургаў, апаратараў у пастаноўках тэатраў, кінастудый, на тэлебачанні і радыё***

**ПАШКОЎ Генадзь Пятровіч,** журналіст, член Саюза беларускіх пісьменнікаў, галоўны рэдактар выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя", **ЛАПЦІНСКІ Ігар Васільевіч,** артыст, заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь, рэжысёр рэдакцыі літаратурна-драматычных праграм Рэспубліканскага радыё Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі, **КРАСОЎСКІ Віктар Іванавіч,** артыст аркестра, гукарэжысёр аддзела гукарэжысёраў Дырэкцыі праграм Рэспубліканскага радыё Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі, **КАМАРОВА Ніна Яўгенаўна,** журналіст, член Беларускага саюза журналістаў, спецыяльны карэспандэнт рэдакцыі літаратурна-драматычных праграм Рэспубліканскага радыё Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі, — за лірыка-дакументальную радыёаповесць "Палескія вандроўнікі";

**ЯНКОЎСКІ Расціслаў Іванавіч,** артыст драмы, народны артыст СССР, вядучы майстар сцэны Дзяржаўнага акадэмічнага рускага драматычнага тэатра імя Максіма Горкага, — за акцёрскія работы 1995—1997 гадоў (ролі Талейрана ў п'есе Ж.- К. Брысвіля "Вячэра", Старцава ў п'есе А. Дударава "У прыцемках", Максіміляна Маора ў п'есе Ф. Шылера "Браты Маор", Нормана Тэера ў п'есе Э. Томпсана "На залатым возеры", Нікана Букеева ў п'есе М. Горкага "Букееў і кампанія");

***за творы жывапісу, скульптуры, графікі, манументальна-дэкаратыўнага і прыкладнога мастацтва, дызайну***

**АРЦІМОВІЧ Анатоль Яфімавіч,** мастак-скульптар, член Беларускага саюза мастакоў, дацэнт Беларускай акадэміі мастацтваў, **МАРОЗАЎ Ігар Вячаслававіч,** архітэктар, член Беларускага саюза архітэктараў, кандыдат архітэктуры, дацэнт Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі, — за помнік Рагнедзе і Ізяславу ў г. Заслаўі, узведзены ў 1993 годзе;

***за арыгінальную архітэктуру грамадзянскіх, прамысловых збудаванняў у горадзе і ў вёсцы***

**ТАРНОЎСКІ Уладзімір Мікалаевіч,** архітэктар, начальнік архітэртурна-канструктарскай майстэрні дзяржаўнага прадпрыемства "Інстытут "Мінскпраект", **КАРУНАС Васіль Канстанцінавіч,** архітэктар, дырэктар майстэрні праектнага прадпрыемства "Творчая майстэрня архітэктара Карунаса В. К.", **НІЧКАСАЎ Анатоль Іванавіч,** архітэктар, намеснік міністра архітэктуры і будаўніцтва Рэспублікі Беларусь, **БЕЛІКАЎ Генадзь Іванавіч,** архітэктар, начальнік упраўлення тэрытарыяльных рэсурсаў, рэгіянальнага планавання і інфраструктуры Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва Рэспублікі Беларусь, **МАЛЕВІЧ Юрый Мікалаевіч,** архітэктар, галоўны спецыяліст Камітэта па архітэктуры, горадабудаўніцтву і тэрытарыяльнаму планаванню Мінскага аблвыканкома, **ПАРХУТА Анатоль Сяргеевіч,** архітэктар, начальнік галоўнага ўпраўлення архітэктуры, горадабудаўніцтва і тэрытарыяльнага планавання Гродзенскага аблвыканкома, **ЕЎДАКІМАЎ Уладзімір Мікітавіч,** архітэктар, заслужаны архітэктар Рэспублікі Беларусь, галоўны спецыяліст па архітэктуры праектнага інстытута "Гроднаграмадзянпраект", **ПРААБРАЖЭНСКІ Уладзімір Барысавіч,** архітэктар, галоўны архітэктар праектнага ўпраўлення праектна-прамыслова-будаўнічай фірмы "Гроднажылбуд", — за архітэктуру жылога гарадка Рось Ваўкавыскага раёна Гродзенскай вобласці, здадзенага ў эксплуатацыю ў 1994—1997 гадах;

***за даследаванні па тэорыі і гісторыі мастацтва і архітэктуры, а таксама за падручнікі для спецыяльных навучальных устаноў па архітэктуры і мовазнаўству***

**КУЛЯШОВА Галіна Рыгораўна,** доктар мастацтвазнаўства, загадчыца аддзела музычнага мастацтва і энтамузыкалогіі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя Кандрата Крапівы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, **ДУБКОВА Тамара Аляксандраўна,** музыказнавец, заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь, **МДЫВАНІ Таццяна Герасімаўна,** музыказнавец, кандыдат мастацтвазнаўства, старшы навуковы супрацоўнік аддзела музычнага мастацтва і этнамузыкалогіі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя Кандрата Крапівы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, **ПЯТРОВА Людміла Іванаўна,** кандыдат філалагічных навук, **ЧУРКО Юлія Міхайлаўна,** тэатразнавец, доктар мастацтвазнаўства, прафесар кафедры харэаграфіі Беларускага універсітэта культуры, **ЮЎЧАНКА Надзея Аляксандраўна,** музыказнавец, кандыдат мастацтвазнаўства, старшы навуковы супрацоўнік аддзела музычнага мастацтва і этнамузыкалогіі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя Кандрата Крапівы Нацыянальнай акадэміі Беларусі, — за даследаванне "Музычны тэатр Беларусі" ў 3-х тамах, апублікаванае ў 1993—1997 гадах.

Заканчэнне.
Пачатак у № 4.

ЮБІЛЕЙ





# «KHOROSHKY» — ГЭТА РАДАСЦЬ, ГЭТА СВЯТА...

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).



Неверагодна, але гэта факт: маім любімым "Харошкам" чвэрць стагоддзя споўнілася! А ведаю я іх яшчэ болей, калі зваліся яны "Вяснянкай" і былі прыпісаны да аднаго з палацаў культуры горада Магілёва. І ў таго самадзейнага калектыву, які стварылі маладыя таленавітыя харэографы Валянціна Гаявая і Мікалай Дудчанка, ужо тады быў бачны неагульны выраз твару. Між іншым, дагэтуль памятаю іх залiхвацкую польку "Весялуху", што стала візітнай карткай калектыву. Здаецца, ніхто лепей не выконваў яе.

А потым, потым... з'явіліся ў Мінску на сцэне Белдзяржфілармоніі "Харошкі", якія падаліся мне чымсьці знаёмым. Ну а калі выйшаў кaлapытны Фёдар Балабайка, без якога некалькі нумароў проста немагчыма ўявіць, апошнія сумненні адпалі самі сабой. Так, новы калектыў быў створаны на аснове "Вяснянкі" і ўвабраў усе лепшыя здабыткі і выканаўцаў. І назву сваю ўзяў ад вёскі Харошкі, што на Магілёўшчыне. Тут быў "падгледжаны" танец "Гусарыкі", які ўвайшоў у першую праграму ансамбля і дагэтуль упрыгожвае яго рэпертуар.

А ён вельмі багаты: за 25 гадоў шмат цікавых праграм і нумароў падрыхтавана калектывам. І кожны канцэрт — быццам на адным дыханні, у неверагодным віхурным рытме, які ашаламляе і заварожвае. Іншы раз здаецца, што шалёны віхур са сцэны вось-вось падхопіць, закружыць залу і яна сарвецца з месца, аддаючыся цалкам ягонай волі. Але ж справа не толькі ў палымяным рытме — не толькі ногі, але нашы сэрцы адгукаюцца на гэты заклік. Бо недзе ў самых патаемных кутoчках душы, генах нашых жыве памяць, якая не дае цалкам парушыць нашу повязь з мінуўшчынай. І гэта было лепшым адказам крытыкам, якія ламалі коп'і, высвятляючы працэнт "асфальтаванага" і сапраўднага, жывога фальклору ў пастаноўках Валянціны Гаявой, нязменнага мастацкага кіраўніка і галоўнага балетмайстра "Харошак". Між іншым, нельга падыходзіць да гэтага калектыву як да простага фальклорнага ансамбля. Праграма ж "Бывай, XX стагоддзе", падрыхтаваная да 20-гадовага юбілею ансамбля, выбіла апошнюю глебу з-пад ног крытыкаў. Бо такі цэльны спектакль па матывах гарадскога фальклору мы ўбачылі ўпершыню. Менавіта спектакль, бо толькі адзін "Местачковы вальс" — гэта выразная замалёўка з жыцця маленькага правінцыяльнага гарадка. А полька-кадрыля, падэспань, местачковы аркестр... — усё гэта таксама маляўнічыя мініяцюры з узорамі гарадскога фальклору, прасякнутыя добрым гумарам і светлай настальгіяй па страчанаму і забытаму.

Сёй-той, паглядзеўшы тую праграму, пазначыў калектыў, як "новы", "іншы" "Харошкі". Але гэта было не зусім так, бо "Харошкі" па-ранейшаму заставаліся і застаюцца аўтарскім калектывам. І не толькі таму, што ўвесь час узначальвае іх адзін чалавек. Аўтарскі ён перш за ўсё таму, што Валянціна Гаявая і ансамбль робяць тое, чаго не робяць іншыя. У дадзеным выпадку вызначэнне "ансамбль" адпавядае свайму першаснаму зместу і значэнню.

Так, "Харошкі" з нейкага часу перайшлі ў новы ранг: іх не без падставы пачалі называць "Тэатрам танца". Але ж "тэатральнасць" у "Харошак" прысутнічала з самага пачатку: "Гуканне вясны", кампазіцыя "Па матывах Полацкага сшытка", праграма "Бывай, XX стагоддзе" — гэта этапы развіцця творчага, ансамблевага калектыву, які праз мініяцюры прыйшоў да цэлага спектакля. Яны заўсёды на сцэне "прадстаўлялі" танец, "разыгрывалі" яго, што надавала і надае праграмам "Харошак" дадатковыя фарбы, эмацыянальны зарад і, дарэчы, адпавядае іх сутнасці. Ці не таму так арганічныя і музыкі — паўнапраўныя акцёры гэтага ансамбля?

Арганічным працягам з'яўляецца і прэм'ера новай работы калектыву, падрыхтаванай да свайго 25-гадовага юбілею, — "Варыяцыі прыдворнага тэатра" — замалёўкі па матывах шклоўскага балетнага тэатра магната Зорыча (канец XVII — пачатак XVIII стагоддзяў). Гэта так прыгожа, што дух займае! А яшчэ з'яўляецца пачуццё ўдзячнасці за тое, што нам зноў напомнілі, якія мы ўсё ж багатыя на культуру і традыцыі, і нам ёсць чым ганарыцца.

Дзякуй "Харошкам", што яны ёсць, што з кожным годам набываюць усё новыя фарбы, дораць нам усім радасць.

Новых цікавых здзяйсненняў вам, прыгожым і непаўторным! Новых сцежак-дарожак па роднай зямлі і новых краін у замежных гастролях, бо вы лепш за многіх расказваеце свету пра нашу Беларусь.

**Марта КОСЦІЧ.**

*Фота Яўгена КОКТЫША.*





НОВЫЯ ВЫДАННІ

## СУСТРЭЧА З ВЫСОКАЙ ПАЭЗІЯЙ

Сустрэча з народным паэтам Беларусі Нілам Гілевічам адбылася ў мінскай бібліятэцы "Юнацтва". Разам з ім на вечарыну завіталі і тэатр аднаго акцёра "Зніч" пад кіраўніцтвам Галіны Дзягілевай.

Упершыню з творчасцю Ніла Гілевіча большасць яго чытачоў сустракаюцца яшчэ ў школе.

Гэтая вечарына пачалася мастацкім чытаннем урыўкаў з рамана ў вершах "Родныя дзеці" ў выкананні артыста Тэатра юнага гледача Мікалая Лявончыка. Акампаніравала артысту на цымбалах Ірына Даўгалёва.

Пакуль артыст чытаў урыўкі, паэт нібы знаёміўся са сваімі чатачамі, якія прыйшлі да яго на сустрэчу, а потым ужо і сам пачаў выступаць. Вершы, якія чытаў Ніл Гілевіч, успрымаліся лёгка, нязмушана. Гучалі творы пра каханне, бо перад паэтам была аўдыторыя юных слухачоў. Паэт добра ведае праблемы нашага складанага жыцця, як іх нялёгка вырашаць, але і ў паэта ёсць праблемы, неабыякавыя для нас.

Ніл Гілевіч устрывожаны сучасным станам беларускай мовы, якую ён называе мілагучным, звонкім, спеўным словам. Але акрыляе яго тое, што ўсё больш і больш маладых людзей ідзе ў літаратуру: нават у лепшыя часы такога наплыву маладых талентаў не ведала наша прыгожае пісьменства. А значыць, ёсць спадзяванне, што беларуская мова будзе жыць.

На вечарыне панавала атмасфера шчырасці, зацікаўленасці і даверу. Прысутныя задавалі Нілу Гілевічу шмат пытанняў, цікавіліся творчымі планамі, непакоіліся станам яго здароўя, пыталіся, чаму да гэтага часу не выходзіць другі том збору яго твораў. У заключэнне сустрэчы ўсе разам сфатаграфаваліся на памяць.

**Таццяна ЖУРЫК.**

## А ШТО ВЫ ВЕДАЕЦЕ ПРА ТЭАТРЫ?

"Тэатры Беларусі" — такую назву мае новае выданне, у якім коратка асвятляецца гісторыя тэатраў і іх сучасны стан. Яно разлічана на знаёмства з тэатрамі нашай краіны. Аўтары тэкстаў — вядомыя беларускія навукоўцы Т. Гаробчанка і Д. Стэльмах. Кніга распачынаецца са змястоўнай прамовы славутага беларускага крытыка, пісьменніка, доктара мастацтвазнаўства А. Сабалеўскага. Яна з густам аформлена і змяшчае тэкст на дзвюх мовах — беларускай і англійскай. Пераклад на англійскую мову вельмі прыгожа і дакладна зрабіла Н. Лейзер. Далей ідзе падрабязны расповед пра кожны з 27 тэатраў нашай краіны. Кожнаму ў кнізе выдзелена 3—4 старонкі тэксту. Спектр інфармацыі даволі шырокі: ад гісторыі ўзнікнення тэатра і трупы да звестак пра творчы патэнцыял трупы і ўмяшчальнасць глядзельнай залы. Маюцца і фотаздымкі будынкаў кожнага з беларускіх тэатраў з адрасам.

Аўтары не абмінулі сваёй увагай новыя беларускія тэатры, такія, як Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі, мінскі драматычны тэатр "Дзе я?", мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка", Мінскі абласны драматычны тэатр у горадзе Маладзечне, Мазырскі драматычны тэатр імя І. Мележа, Слонімскі беларускі драматычны тэатр...

Асабіста я ўпершыню даведаўся, што ў краіне ёсць Гомельскі незалежны тэатр. Між іншым — гэта адзіны ў краіне прыватны тэатральны калектыў, які ўзнік па ініцыятыве і на сродкі прадпрымальніка Р. Фігліна. Адкрыццё яго адбылося 13 кастрычніка 1992 года. У штаце тэатра 4 прафесійныя акцёры; Г. Анчышкіна, Т. Булгакава, С. Чугай, А. Троіцкі. Незалежны тэатр штогод рыхтуе дзве прэм'еры. З першых спектакляў вакол калектыву пачала фарміравацца свая глядацкая аўдыторыя, пераважна студэнцкая моладзь. Спектаклі Незалежнага тэатра вылучаюцца камернасцю, аскетычным мастацкім афармленнем, элегантнай, стыльнай манерай акцёрскага выканання.

**Аляксей ШАЛАХОЎСКІ,**
*навуковы супрацоўнік Беларускага інстытута праблем культуры.*



СПАДЧЫНА

# ЯКУБ НАРКЕВІЧ-ЁДКА І ЯГО КРАЙ

ЗВЫЧАЙНА ў кожнай вёсачцы ёсць нейкая асаблівасць, якая, нібы каштоўная жамчужына, прыцягвае да сябе, захапляе і ўпрыгожвае гэтую мясціну.

Менавіта так адбываецца і з вёскай Нізок Уздзенскага раёна. У XVII стагоддзі непадалёку ад яе, на высокім правым беразе Нёмана, узнікла паселішча Наднёман. Пазней яго ў князёў Радзівілаў набыў чалавек са старажытнага шляхецкага роду — Антон Наркевіч-Ёдка. Ёдка ажаніўся з Анэляй (Ганнай) Эсткай і праз яе стаў сваяком роду Касцюшкаў, тых самых, якія далі свету Тадэвуша Касцюшку, кіраўніка нацыянальна-вызваленчага паўстання 1794 года. У 1847 годзе ў Анэлі і Антона нарадзіўся сын Якуб. Хлопчык ад прыроды быў адораны прыгажосцю, дапытлівасцю і здольнасцямі. Яго аддалі вучыцца ў Мінскую губернскую гімназію, якую ён скончыў у 1865 годзе. Да таго часу Якуб ужо быў вядомы як кампазітар і піяніст-віртуоз. Даводзілася яму ў гэтай якасці падарожнічаць па Еўропе, пазней нейкі час працаваў у Расіі. Потым зноў паехаў за мяжу — на гэты раз з іншай мэтай: вывучаць фізіку, прыродазнаўства, медыцыну. Вярнуўся ў Наднёман у маёнтак Наркевічаў-Ёдкаў па-еўрапейску адукаваным чалавекам, заўзятым прыродазнаўцам. Прага да навукі ўзяла верх над музыкай.

У цэнтры наднёманскага маёнтка ўзвышаўся велічны палац. Тут, у падвальнай частцы збудавання, Якуб Антонавіч абсталяваў электраграфічную лабараторыю, дзе праводзіў шмат часу — займаўся доследамі. Побач з палацам у 1888 годзе пабудаваў метэаралагічную станцыю — 27-метровую вежу з золавай арфай наверсе — таксама дзеля вывучэння ўзаемадзеяння з'яў прыроды і жывога арганізма. Ён сканструяваў і выкарыстоўваў у сваім маёнтку громаадводы, яго ідэю бяздротавага тэлеграфа падхапілі іншыя вучоныя. У мястэчку Пясочным, што непадалёку ад яго сядзібы, на левым беразе Нёмана, а таксама ў Слуцку ён адкрыў аптэкі. У сваім маёнтку арганізаваў санаторый, дзе лячыліся цяжкахворыя.

Захаваліся цікавыя дакументы таго часу. Па-першае, аб'ява: "З дазволу мінскага ўрачэбнага інспектара кумысалячэбная ўстанова ў маёнтку Наднёман уладара Я. Наркевіча-Ёдкі пры санаторнай яго станцыі. Сезон з 15 мая па 15 верасня. Жадаючыя могуць карыстацца купаннем, разнастайнымі ваннамі, у тым ліку электрычнымі, сонечнымі, паветранымі, масажам і гімнастыкай, агульным сталом і поўным утрыманнем па асобаму запрашэнню. Маюцца асобныя дачы". Па-другое, справаздачы самога Наркевіча-Ёдкі мінскаму начальству. У справаздачы за 1895 год ён пісаў: "Сёлета паслугамі кумысалячэбніцы карысталіся 50 чалавек бясплатна". У 1899-м: "Летні сезон быў прысвечаны арганізацыі летняй лабараторыі... для бясплатнай дапамогі як медыцынскай, так і лекавай".

Якуба Наркевіча-Ёдку ведаў увесь тагачасны еўрапейскі вучоны свет. У 1892 годзе яго прызначылі членам-супрацоўнікам Інстытута эксперыментальнай медыцыны ў Пецярбургу. На міжнародным кангрэсе ў Францыі ў 1900 годзе яму было прысуджана званне прафесара электраграфіі і магнетызму. Пра яго выдалі кніжку ў Парыжы. Яго лекцыі слухалі ў Пецярбургу і Рыме, Вене і Парыжы. Многія навуковыя таварыствы выбіралі яго сваім ганаровым членам. А ён усё працаваў і працаваў, не адмаўляўся і ад грамадскай дзейнасці. Але, як кажуць, няма прарока ў сваёй айчыне. Многія мясцовыя памешчыкі і мяшчане лічылі яго дзіваком, спрачаліся за зямельныя ўладанні, не разумелі яго доследаў і, бывала, кпілі.

МЯРКУЮ, у Нізку і навакаліцах цікава было б турыстам, хаця б улетку. Яны ўбачылі б сядзібу Наркевічаў-Ёдкаў, ступілі б за браму, пад векавыя дрэвы, дзе над рэчкай ганарова-ўрачыста ўзвышаліся палац і вежы метэастанцыі. Можна ўявіць, колькі выдатных людзей здалёк і зблізку імкнуліся сюды, як штогод наладжваліся тут "святы лета", запрашаўся лепшы ваенны духавы аркестр, гучала над рэчкай "палкавая музыка", а часам за раяль садзіўся і сам гаспадар, як з прыгожай алеі выходзілі ў белых сукенках і капелюшах маці Якуба Антонавіча — Анэля Якаўлеўна, кабета высокаадукаваная, аматарка музыкі і літаратуры, прыгожая і мудрая, дачка яе, таксама Анэля, малодшая сястра Якуба (таленавітая паэтка, ды лёс адмераў ёй усяго 23 гады жыцця) і жонка Якуба — Алена Адамаўна.

Алена Адамаўна нарадзіла трох сыноў і дзвюх дачок. Яна добра разумела мужа і падтрымлівала яго ў навуковых пошуках. Менавіта жонка праводзіла мужа ў чарговую навуковую паездку ў Заходнюю Еўропу, а праз колькі часу атрымала страшную вестку: Якуба Антонавіча зваліла хвароба. Памёр ён на руках у жонкі 6 (19) лютага 1905 года. Алена Адамаўна прывезла цела мужа з Вены ў Наднёман, дзе яго пахавалі ў фамільным могільніку.

Але сёння нельга без болю глядзець на кучу нагрувашчаных пліт-камянёў, якія калісьці былі могільнікам. На адным з камянёў яшчэ прачытваецца: "Анэля Ёдка, 1850—1873". Фамільны склеп даўно ўшчэнт разбураны. На жаль, гэта пакуль лёс многіх помнікаў даўніны.

**Віктар ЖЫБРЫК.**





Выстава старадаўніх гадзіннікаў адкрыта ў гомельскім краязнаўчым музеі. Аснову яе складаюць гадзіннікі з калекцыі былых уладальнікаў гомельскага маёнтка — князёў Паскевічаў. Сярод іх падлогавыя, насценныя, настольныя хранометры — унікальныя творы не толькі гадзіншчыкаў, але і славутых еўрапейскіх бронзаўшчыкоў, скульптараў, мэбельшчыкаў, эмальераў, якія працавалі ў XVII—XIX стагоддзях.

*На здымках: на выставе; камінны гадзіннік "Жанчына-коннік", XIX стагоддзе.*

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БелТА.*

# СЕЛЬСКІ ЛІРНІК

**(З НАГОДЫ 175-х УГОДКАЎ У. СЫРАКОМЛІ)**



Магіла і помнік У. Сыракомлі пасля рэстаўрацыі, якую правялі Юрый ГІЛЬ і Эдмунд ШОТ.

*Людвік Кандратовіч нарадзіўся ў 1823 годзе ў вёсцы Смольгава былой Мінскай губерні. Напэўна ніхто з паэтаў рамантызму не быў так блізкі народу, як ён, і нездарма называў сябе сельскім лірнікам. Сапраўды, Сыракомля цесна быў звязаны з вёскай, блізка ведаў быт яе жыхароў, у тым ліку і ў Віленскім краі, дзе правёў значную частку свайго жыцця, а прах яго пакоіцца на могілках Росы, што ў Вільні, на так званай Літарацкай горцы.*

ІМЯ Уладзіслава Сыракомлі дарагое як палякy, так і беларусу. Наша зямелька Беларусь узгадавала такога слыннага сына нашай Бацькаўшчыны, якім можа ганарыцца кожны.

Бацькі яго, а гэта маці Вікторыя з сям'і Златкоўскіх і Аляксандр Кандратовіч (бацька) жылі на сродкі ад арэнды. Вучыўся будучы паэт спачатку ў школе ў Нясвіжы ў айцоў-дамініканаў, а калі царскія ўлады закрылі школу, то ў 1835 годзе давялося перабрацца ў Навагрудак, дзе скончыў 5-ты клас гімназіі.

На гэтым адукацыя скончылася, бо бацька забраў яго на гаспадарку, але хутка заўважыў, што арандатара, як ён сам, не выйдзе, і знайшлі сыну працу ў Нясвіжы канцылярыстам. Там ён працаваў у 1841—1844 гадах у галоўным кіраванні маёмасці князя Людвіка Вітгенштэйна. Тады і зацікавіўся багатай бібліятэкай Радзівілаў і іх архівам.

20-гадовым юнаком Сыракомля ажаніўся ў Нясвіжы з Паўлінай Мітрашэўскай і пераехаў у Залужжа над Нёманам да бацькоў, якія трымалі тут фальварак, пераехаўшы са Смольгава.

Тут ён напісаў вядомую народную баладу (гавэнду) "Паштальён", якая ў 1844 годзе была надрукавана ў віленскай "Athenaeum", а потым перакладзена на рускую мову і стала папулярнай песняй. Пачалася творчая праца ў Залужжы, дзе ён напісаў шмат твораў, а таксама зрабіў пераклады польска-лацінскіх паэтаў. Але нечакана прыйшла бяда: на працягу аднаго тыдня памерлі трое яго дзяцей (застаўся толькі 4-гадовы Уладзіслаў), і пасля гэтай сямейнай трагедыі ён у 1852 годзе пераехаў у Вільню. Жыў у доме Мюлера, цесця Манюшкі, на Нямецкай вуліцы.

Дружба паміж кампазітарам і паэтам працягвалася доўга. Дарэчы, Сыракомля ў 1854 годзе трымаў пры хрышчэнні сына Манюшкі — Яна. Кампазітар Манюшка стаў аўтарам музыкі да некалькіх тэкстаў Сыракомлі.

У 1853 годзе Сыракомля з сям'ёй пераехаў у фальварак Барэйкаўшчына, што за 15 кіламетраў ад Вільні. Тут ён з перапынкамі прабыў 9 апошніх год жыцця. Гэта найбольш плённы перыяд яго творчай дзейнасці, але і трагічны.

У 1861 годзе за ўдзел у патрыятычных маніфестацыях ён арыштоўваецца царскімі уладамі і праследуецца. Абвастраецца хвароба...

Але, знаходзячыся ў Барэйкаўшчыне, ён займаецца літоўска-беларускім фальклорам, гісторыяй краю, вывучэннем культур і моў.

Спрабуе сябе і ў драматургіі. Яго твор "Хатка ў лесе" ўпершыню быў пастаўлены аматарскім тэатрам у Судэрве бліз Вільні, адкуль трапляе ў тэатр у Варшаву.

Драма ў 3-х актах "Каспар Карлінскі" — трыумф пісьменніка. Прэм'ера яе адбылася ў Вільні 28 студзеня 1855 года.

Памёр У. Сыракомля ў 1862 годзе.

Яго імя шануецца на Віленшчыне.

ТБМ імя Ф. Скарыны Віленскага краю таксама прымае ўдзел у многіх акцыях ушанавання імя Сыракомлі. Па ініцыятыве ТБМ перад юбілеем паэта ў вёсцы Дукшты Віленскага раёна адна з вуліц названа імем У. Сыракомлі, а на Росах рэстаўрыравана магіла і помнік У. Сыракомлі і яго сям'і.

Аўтару гэтай заметкі асабіста даводзілася прымаць удзел у мерапрыемствах па ўшанаванню памяці нашага земляка, сельскага лірніка — У. Сыракомлі.

**Юрый ГІЛЬ.**

г. Вільнюс.

**НОВАЕ ПРА УЛАДЗІМІРА КАРАТКЕВІЧА**

# «ПОДЫХ ЮНІ ЎХОДЗЯЧАЙ МАЁЙ...»

***Працяг гутаркі журналісткі Галіны ШАБЛІНСКАЙ з Музай СНЯЖКО, аднакурсніцай і сяброўкай юнацтва Уладзіміра КАРАТКЕВІЧА***

Працяг.
Пачатак у №№ 48—52, 1998 г.
і ў №№ 1—4, 1999 г.

Я думаю, што гэтая яго чалавечая аб'ектыўнасць узмацнялася і фізічным адчуваннем. Пры яго ўнутранай эмацыянальнасці і вастрыні ўспрыняцця падзей ён цяпер хутка стамляўся. Яму больш за іншых патрэбны быў адпачынак. Ён не хацеў нікога абцяжарваць сваім станам здароўя, а проста пабыць пасля сустрэч сам-насам...

Раскажу вам, як мы яго сустракалі ў аэрапорце "Жуляны": я, Юра Юрчанка, Наташа Шышкалава (якая ўжо прыехала з Бухарэста). Самалёт прыляцеў, усе пасажыры выйшлі, а Караткевіча няма. Мы чакаем-чакаем. Я вырашыла абысці будынак аэрапорта вакол. Раптам з супрацьлеглага ад выхаду боку з'яўляецца Караткевіч.

— Валодзя, што такое? Адкуль ты ідзеш?

— З міліцыі.

— ???

— Ну трэба ж! Такое прыдумаць!..

Аказваецца, у самалёце сцюардэса, знаёмячы пасажыраў з гісторыяй Украіны, сказала, што пасля ўз'яднання з Расіяй у 1653 годзе на Украіне пачалі развівацца ганчарныя рамёствы. І тут Караткевіч гучна, на ўвесь салон, і прамовіў сваю "крамольную" фразу: "Ну канешне, у XI стагоддзі ў Кіеве гаршкоў не ляпілі". А сцюардэса ў адказ: "Як вы сябе паводзіце? Я выклічу міліцыю". Што яна і зрабіла. Пры пасадцы каля трапа самалёта Уладзіміра Сямёнавіча, сапраўды, сустрэла міліцыя і прапанавала яму прайсці ў аддзяленне. Дзякуй Богу, знайшліся там разумныя людзі: паслухалі, разабраліся ў такім "крыміналe", пажартавалі і адпусцілі яго з мірам.

У даным выпадку ўзбунтавалася супраць гістарычнай няпраўды яго натура гісторыка і кіяўляніна. Я тады яму сказала: "Табе гэта было патрэбна? Чаму ты не стрымаўся?" А ён: "Разумееш, яна абвяшчае на ўвесь самалёт! Але ж не кожны з пасажыраў ведае гісторыю Кіева і Кіеўскай Русі. А па яе словах атрымліваецца, што Кіеў пачаў развівацца толькі ў XVII стагоддзі. Хаця Кіеў — самы старажытны горад". Вось гэта непрымірымасць Валодзі да скажэння любых фактаў спадарожнічала яму ўсё жыццё і прыносіла шмат клопатаў.

Але вернемся да апошняй сустрэчы. Месцам збору курса мы выбралі парк насупраць універсітэта. Наш пастаянны фатограф Юра Юрчанка прыйшоў з фотаапаратам і трыножнікам. Прасцей адчувалі сябе тыя, хто прыйшоў першым. Яны чакалі астатніх, якім даводзілася пазнаваць усіх прысутных. А 30 гадоў, безумоўна, не маглі прайсці бясследна. Многія вельмі змяніліся. І па гэтай прычыне нават не хацелі сустракацца. Тых, хто бачыўся больш-менш рэгулярна, — гэта ўвогуле не хвалявала. Нам здавалася: мы — усё тыя ж.

— Як у студэнцкія гады?

— Так, уяўляеце? Сапраўды, па духу і бадзёрасці мы засталіся ранейшымі. Валодзя стаяў крыху ўбаку. Знешнія атрыбуты яго не цікавілі. Але затое з кожным ён павітаўся персанальна, перагаварыў з усімі. На жаль, на ім ужо ляжала пячатка хваробы. Калі б раней — ад яго б шугала полымя энергіі. А тут ён быў такі спакойны і ... быццам саромеўся. Саромеўся таго, што ён сярод нас — пісьменнік. І пісьменнік прызнаны.

— І што яму рабіць? Як сябе паводзіць з аднакурснікамі?

— Так-так. Мяне гэта вельмі ўразіла ў Валодзі: ён не хацеў вылучацца сярод іншых абсалютна нічым. Ён — як усе. Такая якасць чалавека, безумоўна, вельмі каштоўная...

Валодзя паспеў у мяне распытаць пра кожнага і ў агульных рысах ведаў пра жыццё аднакурснікаў. Потым, калі ў нас пачаліся размовы, Валодзя маўчаў, як рыба. Але вельмі сур'ёзна пра ўсё думаў. У мяне склалася ўражанне, што ў яго ўнутры нейкае нябачнае прыстасаванне ці блакнот, дзе ён робіць свае занатоўкі. Я ўпэўнена, што пра кожнага з нас ён мог даць падрабязны каментарый.

Дык вось, сядзім мы на кафедры рускай мовы ва універсітэце (прыйшлі сюды ўжо з парку), слухаем споведзь кожнага. Даходзіць чарга да Караткевіча. І ў Валодзі, як кажуць, адымае мову... Ён амаль нічога не сказаў. Толькі падараваў усім свае праспекты з аўтографам. А менавіта ад яго аднакурснікі чакалі самага цікавага расповеду. Але яму было няёмка казаць пра сябе (і такое ўражанне склалася ў многіх)...

Назаўтра мы сустракаемся ў парку на схілах Дняпра. Цярусіць дождж. Некаторым з нас цяжка далёка ісці. І Валодзі, аказваецца, таксама. Але ж гэтага ніхто не ведае. Ну хто б мог паверыць, што Караткевічу калі-небудзь будзе цяжка ісці?.. Тут дождж узмацняецца, і мы едзем да Валі Бараноўскай. Размовы, жарты, успаміны не сціхаюць ні на хвіліну. Да мяне падыходзіць Валодзя і кажа: "Я цябе вельмі прашу дапамагчы. Давайце заўтра сустрэнемся ў мяне больш цесным кругам". Я яму прапаную: "Давай лепш у нас на кватэры". — "Не, у мяне ў гасцініцы".



*Сям'я Караткевічаў: маці, сястра Наталля, пляменніца Надзея, Валодзя Караткевіч, бацька, пляменніца Рая. Орша, 1953 год.*

З раніцы мы сабраліся ў яго ў нумары: Юра Юрчанка, Фларыян Няўважны, Наташа Шышкалава, Міша Гальдштэйн, я з мужам. Прыйшоў і Валодзеў перакладчык Карпо Скрыпчанка. І так добра нам было ўсім разам. Ніякага грузу мінулых гадоў. Валодзя жартаваў, расказваў анекдоты, гарэзіў. Бярэ кавалачак сурвэткі, скручвае і ... шпурляе ў расчыненае акно. Я кажу: "Валодзя, што ты робіш? Гэта ж інтурысцкая гасцініца!" Ён смяецца, зноў бярэ і зноў кідае. Тут я ўжо сур'ёзна: "Валодзя, спыніся!" А ён мне ў адказ: "Ну паглядзі ўніз. Там жа сетка падвешана!" Значыць, ён паспеў абследаваць і ўсё ведаў. Гэтая дзіцячая непасрэднасць жыла ў яго душы пастаянна і праяўлялася ў самых нечаканых момантах.

Валодзя застаўся задаволены нашай сустрэчай. Ён сказаў: "Я так хацеў прыехаць, і я рады, што курс не распаўся. Усе аказаліся добрымі людзьмі." Ён не стаў вылучаць, што нехта зрабіў кар'еру, дасягнуў чагосьці. Не. Ён проста адзначыў: "Кожны стаў чалавекам".

У той жа дзень, 1 ліпеня 1984 года, мы праводзілі яго ў аэрапорт. Валодзя фізічна стаміўся. Мне нават здавалася, што гэта і не ён. А яшчэ засталося адчуванне нейкай Валодзевай адлучанасці, маркоты. Ужо перад самым ад'ездам мы сталі ля гасцініцы, чакалі машыну, і Валодзя згадаў майго бацьку вельмі цёпла. Потым сказаў: "Наступны свой твор я прысвячу табе. І напішу — Музе Геніеўне. Думаю, што твой бацька не пакрыўдзіўся б".

— То былі апошнія яго словы вам на развітанне?

— Так, асабіста мне. Такім чынам ён аддзячыў мне за арганізацыю сустрэчы курса. Ведаю, што бліжэйшых творчых планаў у яго не было. Але калі б быў жывы, то абавязкова штосьці напісаў бы і сапраўды прысвячэнне было б такім... Пасля ўжо ў аэрапорце — традыцыйнае развітанне, калі шмат людзей, усё трохі сумбурна і крыху сумна. Мы пажадалі яму шчасліва даляцець да Мінска.

— І не гаварыць больш сцюардэсе пра гаршкі...

— Нешта прыблізнае я яму сказала, каб памаўчаў у самалёце і даў мне вестачку, калі будзе на месцы.

Вечарам Валодзя пазваніў з дому. І гэта ўжо былі, сапраўды, яго апошнія словы нам — словы падзякі і спадзявання на хуткую сустрэчу ў Мінску ў жніўні...



# НОВЫЯ КНІГІ

## ПА СТАРОНКАХ БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ

### ПРА БЕЛАРУСЬ І ЯЕ ЖЫХАРОЎ

**Стальмакоў М.** Мой родны кут: З гісторыі в. *Паўлавічы* [(*Клімав. р-на*): Уключ. таксама апавяданні і вершы]. — Магілёў, 1998. — 131 с.: фат., іл. — 1000 экз.

**Тапаграфічная** карта Заходняй Расіі (Беларусі). 1866 — 1912. "Трохвярстоўка". М 1 : 126000: Паўноч. ваколіцы *Слоніма:* [Фрагм. старадаўн. карты з карот. апісаннем некаторых вёсак, мястэчак і самога горада] / Падрыхт. М. Сокал // Падарожнік. 1998. № 1. 5—8-я с. укладыша паміж с. 12—13. (Наш край [часопіс у часопісе]).

**Новикова Г.** *Хотимск:* [История поселка гор. типа] // Гісторыя: праблемы выкладання. 1998. № 1. С. 117—125.

**Грудзіна А. П** Старажытны *Шклоў* у Вялікім Княстве Літоўскім // Магілёўс. даўніна: [Штогоднік]. 1997. С. 67—79.

*Краязнаўства:*

**Бирюкович К.** *Н[иколай] П[етрович] Румянцев* [1754—1826] и развитие краеведения на Гомельщине: [О науч. и поисковой работе графа, рос. гос. деятеля, мецената и его сподвижников] // Бібл. свет. 1998. № 1. С. 21—22.

**Прадзеіна А.** Абуджаць гістарычную рамантыку: [Пра дзейнасць Віцеб. акруговага т-ва краязнаўства (існавала ў 1924—1932 гг.) па вывучэнні і папулярызацыі ведаў па гісторыі, культуры, прыродзе і эканоміцы краю] // Бел. Мінуўшчына. 1998. № 1. С. 30—32.

*Гістарыяграфія:*

**Краўцэвіч А.** Фарміраванне канцэпцыі генезісу Вялікага Княства Літоўскага ў польскай гістарыяграфіі // Бел. гіст. часоп. 1998. № 1. С. 47—54.

**Этнаграфія. Фальклор, фалькларыстыка**

**Малюшына В.** Звіняць званы...: Пра помнікі этнаграфіі ў чарнобыл. зоне: [На прыкладзе вёсак у Брагін., Хойн., Касцюк., Нараўл. р-нах] // Род. слова. 1998. № 2. С. 151—156.

**Крук І. І.** Следам за сонцам: Бел. нар. каляндар: [Сістэматызав. апісанне найбольш знач. свят і абрадаў беларусаў]. Мн.: Ураджай, 1998. — 216 с.: іл. — Бібліягр.: с. 213—215 (66 назв.). — 6 800 экз.

**Самойла У.** Рэальная рэлігія працы беларускага народа: [Разглядаецца рэлігійн.-звычаёвы характар земляробчай працы, абрады і вераванні, звяз. з хлебам, а таксама валачоб. песні беларусаў: Арт., напіс. у 1938 ці 1939 г.] / Прадм. Я. Кісялёвай "Невядомы рукапіс *Уладзіміра [Іванавіча] Самойлы* [псеўд. *Суліма;* 1878, Мінск, паводле сведчанняў родных Мядзел. р-н — 1941]", дзе, акрамя разгляду прапанаванага арт., ёсць звесткі пра жыццёвы і творчы лёс яго аўтара — даследчыка бел. і рус. літ., філосафа, публіцыста, паэта, удзельніка бел. культур.-грамад. руху (с. 189—192); Пер. з пол. і публ. Я. Кісялёвай // Род. слова. 1998. № 1. С. 193—201.

**Котаў М.** Саракі: [Святкаванне на Беларусі: На матэрыяле, сабр. у Жытк. р-не] // Чырвон. змена. 1998. 21 сак.

**Кухаронак Т.** Адведкі: [Нар. павер'і і абрады падчас наведвання парадзіхі] // Звязда. 1998. 3 сак. С. 8.

**Кухаронак Т.** Выбар кумоў: [Нар. звычаі і абрады] // Звязда. 1998. 17 сак. С. 12.

**Крук Я.** Сімволіка дзён і дат у народнай культуры [народаў свету, пераважна беларусаў] // Звязда. 1998. 18 сак. С. 6.

**Крук Я.** Параскева Пятніца: [Даецца тлумачэнне кожнай святой Пятніцы, гаворыцца пра іх ушанаванне ў хрысціян] // Алеся. 1998. № 2. С. 12.

**Крук Я.** Сімволіка дат у культуры беларусаў: [Прыведз. сістэма абмежаванняў як язычніцкая, так і хрысціянская, у т. л. звяз. з цыклам с.-г. работ і вянчаннем] // Звязда. 1998. 26 сак. С. 12.

**Нікалаева Н.** Забабоны: цемната ці мудрасць народа?: [Павер'і, якія распаўсюдж. у беларусаў] // Звязда. 1998. 19 сак. С. 8.

**Пацыенка С., Пацыенка А.** Пра мядзведзяў, гладыятараў і "Смаргонскую акадэмію": [Пра забавы, відовішчы, гульні з удзелам мядзведзяў і школы для іх дрэсіроўкі, сярод якіх т. зв. "Смаргон. акад.", створ. у XVII ст.] // Культура. 1998. 14—20 лют. (№ 6). С. 11.

**Дзень сённяшні**

**Бабосов Е.** Как зеницу ока беречь национальное согласие: [Говорится об этнонац. составе населения респ., возможности возникновения межнац. конфликтов и путях их предотвращения] // Бел. думка. 1998. № 2. С. 31—39.

*Афіцыйныя матэрыялы:*

**Сборник** действующих нормативных актов Президента Республики Беларусь, 1994—1997 / Под ред. А. Л. Пласковицкого. — Мн.: Нац. центр правовой информ. Респ. Беларусь, 1998. — 638 с. — Алф.-предм. указ.: с. 554—594. Темат. указ.: с. 595 — 624. — 3 000 экз.

**Жилищный** кодекс Республики Беларусь: Принят Верхов. Советом БССР 22 дек. 1983 г. Введ. в действие с 1 апр. 1984 г.: [Текст и изм. и доп. по состоянию на 1 янв. 1998 г.] / Гуманит.-экон. негос. ин-т. — Мн.: ЗАО "Веды", 1998. — 90 с. — 3000 экз.

*Сацыяльна-эканамічныя пытанні:*

**Основные** направления социально-экономического развития Республики Беларусь на 1996—2000 годы. — Мн.: ООО "Мисанта", 1998. — 63 с. — 3000 экз.

**Кодекс** законов о труде Республики Беларусь: Утв. Законом Респ. Беларусь от 23 июня 1972 г.: С изм. и доп. по состоянию на 1 февр. 1998 г. — Мн.: ООО "Амалфея", 1998. — 96 с. — 6000 экз.

**Кодекс** Республики Беларусь о земле: Текст с изм. и доп. по состоянию на 10 янв. 1998 г. — Мн.: ООО "Амалфея", 1998. — 76 с. — 3000 экз.

**О земле:** Сб. нормат. актов Респ. Беларусь по состоянию на 20 янв. 1998 г. / Сост. С. П. Кацубо; науч. ред. В. А. Фадеев. — Мн.: ООО "Амалфея", 1998. — 512 с. — 3000 экз.

**Булавко В. Г.** Некоторые аспекты развития экономики Республики Беларусь // Весн. БДУ. Сер. 3. Гісторыя. Філасофія. Паліталогія. Сацыялогія. Эканоміка. Права. 1998. №1. С. 53 — 56.

**Альгин Б. П., Белов С. М., Харитонович В. И.** Тракторы "Беларусь" — гордость державы Беларусь: Развитие, события, люди / Под общ. ред. Н. Н. Слюнькова; Научн. ред. С. М. Белов. — Мн.: Бел. изд. Т-во "Хата", 1998. — 278 с.: ил., фот., [2] л. цв. фот. — 2000 экз.

*Партыі, згуртаванні, рухі:*

**Раманоўскі І.** Сучасныя палітычныя партыі на Беларусі: - [90-я гг. XX ст.: Асаблівасці дзейнасці, магчымыя перспектывы. Прыведз. таксама табліца, дзе дадзены назвы партый, дата ўстаноўч. з'езда (канф.), даты рэгістрацыі (перарэгістрацыі), орган кіравання] // Бел. гіст. часоп. 1998. № 1. С. 31—36.

**Маргуноў А. Н.** Сучасныя палітычныя плыні ў Магілёве // Магілёўск. даўніна: [Штогоднік]. 1997. С. 19—30.

(Працяг будзе).



БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



# КАЛЯДНАЕ ПАДАРОЖЖА

● **Ніна ПЕТУХОВА,** *супрацоўнік Дзяржкамітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Беларусі.*

ПЯТЫ год у Эстоніі перад Калядамі праходзяць традыцыйныя святочныя сустрэчы мясцовых беларусаў. Яны так і называюцца "Спатканне"... У гэтым годзе калядныя падарункі з Беларусі і беларускія песні ў выкананні цудоўнага маладога калектыву "Крыві" нашы землякі атрымалі ад Дзяржкамітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей.

Паездка была даволі складанай і доўгай. Але калі мы перасяклі эстонскую мяжу і трапілі ў абдымкі сяброў беларускага культурна-асветнага згуртавання з Нарвы Таццяны Караткевіч, Валерыя Жураўлёва, Марыны Трэумавай, стомленасць адразу знікла.

Па дарозе ў гатэль нас пазнаёмілі з горадам. Аказваецца, Нарва мае старажытную гісторыю. Гэта асаблівы і непаўторны горад, заснаваны ў 1240 годзе. Унікальнасць Нарвы ў тым, што яна знаходзіцца на мяжы Усходу і Захаду. Ёю правілі датчане, немцы, шведы, рускія. Пасля Лівонскай вайны Нарва на 200 гадоў перайшла пад уладу Шведскага каралеўства. У гэты перыяд узнік новы горад у стылі барока з магутнымі бастыёнамі. У XVIII стагоддзі, пасля перамогі Пятра I у Паўночнай вайне, Эстонія надоўга ўваходзіць у склад Расіі. Сёння памяць ад мінуўшчыны — дзве магутныя старажытныя крэпасці на розных баках ракі Наровы, якая раздзяляе Эстонію і Расію.

Вечарам у гарадскім Доме культуры нашых землякоў з Нарвы віталі прадстаўнікі Дзяржкамітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Беларусі, гарадскіх улад, генеральнага консульства Рэспублікі Беларусь у Эстоніі, кіраўнікі беларускіх арганізацый з Таліна — Ніна Савінава, з Йыхві — Уладзімір Дзехцярук.

А потым на сцэну выйшла салістка групы "Крыві" Вераніка Круглова, з выгляду сапраўдная паляшучка. "Для нас вялікі гонар і адказнасць прадстаўляць Беларусь і беларускую культуру ў свеце", — з такімі словамі звярнулася яна да залы.

Гэты маленькі калектыў з трох чалавек прыемна ўражвае ўсведамленнем багацця беларускай культуры, пачуццём нацыянальнага гонару за яе, спробай аднавіць повязь пакаленняў, успомніць свае глыбокія карані. Вераніка спявала песні прапрапрабабуль пад гукі старажытных інструментаў. І стваралася ўражанне, што голас даносіцца з глыбінь стагоддзяў. Яе энергетыка перадавалася слухачам, якія не маглі стрымаць слёз ад успамінаў пра радзіму.

Сустрэча прадоўжылася ў гасцінным доме Валерыя Жураўлёва. Валерый нарадзіўся і вырас на Гомельшчыне, але ўсё жыццё яго звязана з Эстоніяй. Ён працаваў на розных кіруючых пасадах, зараз мае сваю прыватную фірму ў Нарве і гатэль на беразе Балтыйскага мора ў курортным пасёлку Усць-Нарва, дзе да рэвалюцыі 1917 года адпачывала пецярбургская эліта. Ён і яго жонка (таксама беларуска) Валянціна заўсёды з радасцю прымаюць гасцей з Беларусі, тут адчуваеш сябе, як быццам прыехаў у госці да блізкіх родзічаў.

Дарэчы, усе мерапрыемствы, якія праводзіць "Спадчына", фінансуюцца Жураўлёвым і яшчэ адным вядомым у горадзе беларусам — Дзмітрыем Чопчыцам, бізнесменам і дэпутатам Дзяржсходу Эстоніі.

Да раніцы гучалі беларускія песні. Паэт з Кохтла-Ярве Уладзімір Дзехцярук чытаў свае новыя вершы. Абмяркоўваліся планы на будучыню. Таццяна Караткевіч — генератар новых ідэй. Толькі што правяла "Беларускі падворак", "Спатканне", а ўжо плануе праз нейкі час пачаць выдаваць газету аб жыцці беларусаў Эстоніі, арганізаваць выставу на гістарычную тэму з твораў вядомых беларускіх мастакоў. Развіццё беларускай культуры — адзін з галоўных напрамкаў дзейнасці згуртавання. Нацыянальная культура беларусаў, яе разнастайнасць і духоўнае багацце, вельмі цікавіць мясцовых жыхароў, выклікае павагу да нашай Радзімы.

"Спатканне" прадоўжылася ў Таліне. Тут яго арганізацыяй займалася старшыня беларускага культурнага цэнтра "Бацькаўшчына" Ніна Савінава. Вядомы ў Эстоніі рэжысёр масавых свят, вядучая беларускай праграмы на Эстонскім дзяржаўным радыё, яна змагла правесці "Спатканне" на высокім узроўні. Разам сабраліся сябры беларускіх суполак Эстоніі, прадстаўнікі дзяржаўных структур, нацыянальных меншасцей, што пражываюць тут. Выступала група "Крыві", дзяўчаты з мясцовага беларускага ансамбля, беларусы, якія даўно прыжыліся на чужой, але цяпер роднай для іх зямлі. Тут я сустрэла многа добрых знаёмых. Гэта і былы эстонскі консул Рэтпап, які тры гады працаваў у Мінску, кіраўнікі беларускіх арганізацый Анатоль Лапышаў, Валерый Чыжык, які цяпер прывозіць гуманітарную дапамогу ў дзіцячыя дамы Беларусі, і многія іншыя.

У дзень ад'езду нас запрасілі ў Міністэрства культуры, дзе адбыўся прыём эстонцаў з Беларусі, якія былі ў складзе нашай дэлегацыі. Эстонія таксама не забывае сваіх землякоў, аказвае ім дапамогу ў нацыянальна-культурным развіцці, а яшчэ мы даведаліся, што летам у Таліне адбудзецца з'езд эстонцаў усяго свету.

Вяртаючыся назад, з удзячнасцю ўспаміналі цёплы прыём у Эстоніі, а таксама тых людзей, якія не забываюць Радзіму, сваю родную мову і культуру.



НА КОНКУРС «БЕЛАРУСЬ У МАІМ СЭРЦЫ»

# ЖЫВАЯ ПАМЯЦЬ

**Люблю наш край, старонку гэту,**
**Дзе я радзілася, расла,**
**Дзе першы раз пазнала шчасце,**
**Слязу нядолі праліла.**

Маё дзяцінства і юнацтва прайшлі ў Беларусі. Наша вёска маленькая — Ляшчынскія ў Мядзельскім раёне, недалёка ад возера Нарач. Пасля пажару мы жылі ў маленькім дамку пры хляве. У 1937 годзе пабудавалі вялікі драўляны дом з гонтавым дахам. Пад вокнамі цвілі мальвы, кусты бэзу, ружы, астры, мята, мацейка.

Помню нашы лугі. Вясной мы, дзеці і цётка (татава сястра), хадзілі падбіраць сучча, каб не ламаліся косы. Лугі пакрываліся рознакаляровымі кветкамі. Па суботах збіралі кветкі для букетаў у пакой і перад іконай. Нас, дзяцей, у сям'і было чацвёра, мы, сёстры, старэйшыя, а браты маладзейшыя. Усе мы працавалі на сенавале. Я з цёткай палола агарод, хадзіла жаць, сястра прыбірала кватэру.

Зямлі ў нас была валока. Бацька з маці касілі жыта, а мы з цёткай жалі. З нашых снапоў бацька рабіў кулі і накрываў хатнія пабудовы. Мне было сем год. Цяпер думаю, што цётка брала мяне ў поле, каб ёй было весялей. Расказвала мне ўвесь наш радавод. Які вясёлы быў час! Ішлі з поля жанчыны і вельмі прыгожа спявалі. Асабліва многа спявалі, калі канчалася жніво.

Па суботах кожная гаспадыня прымушала дзяцей падмятаць двор і вуліцу. Мылі падлогу. У каго не было драўлянай падлогі, то падмяталі ток і сыпалі аер. Які прыемны разносіўся пах! Па суботах былі танцы. Мы, дзеці, заглядвалі ў акно, слухалі музыку — гармонік, цымбалы, іншы раз скрыпка. З гуляння дамоў разыходзіліся пад раніцу. А вясковым жанчынам была тэма для размоў: які кавалер якую дзяўчыну праводзіў дадому.

Летам мы з мамай хадзілі па грыбы. Лясочкі маленькія, бярозавыя, альховыя. А баравікі якія! Мы ведалі грыбныя мясціны. Сушылі, варылі, салілі. Я любіла збіраць суніцы. Заўсёды брала з сабой маленькі кошык. Калі надакучвала жаць, ішла ў лес. Абедаць збіраліся ўсе, мужчыны ад сваёй работы, жанчыны ад сваёй. У канцы абеду на стале з'яўлялася міска са свежым малаком і ягадамі, хлеб, печаны на кляновым лісці, смачны, пахучы.

У нас быў самавар, фарфоравыя талеркі для гасцей, нажы, відэльцы. 15 і 16 жніўня ў кабыльніцкім касцёле быў фэст. Прыязджалі нашы сваякі з іншых прыходаў, пасля малення ехалі ў госці да нас. Бацька рэзаў барана, мама рабіла галубцы ці пельмені, пякла пірагі. Нас, дзяцей, клікалі толькі для таго, каб прадэкламаваць вершы. Іншы раз якая-небудзь цётка давала цукерку.

Па суботах палілася наша лазня. Палілі мы з цёткай, насілі ваду ў бочку. Прыходзіла мыцца "ўся вёска". Спачатку мужчыны, потым жанчыны; абліваліся пасля лазні халоднай вадой. У нядзелю выганялі жывёл, палілі печ, чыя была чарга, тыя ішлі ў касцёл пешкі за 5 кіламетраў у Кабыльнік, цяпер Нарач. Коні летам адпачывалі. Мы ішлі лесам напрасткі. Праходзілі каля вялікага каменя. Мама гаварыла, што ў дзяцінстве пасвіла там жывёлу і што было паданне, нібыта нейкі пан закапаў пад каменем свае каштоўнасці. А ў нашых дзіцячых галоўках нарадзілася думка, каб перасунуць камень і забраць скарб. Тады яшчэ мы не ведалі, што ўсё багацце трэба самому зарабіць.

Прыйшоў час ісці ў школу. Я нарадзілася ў снежні. Бацькі паслалі мяне годам пазней, сястру годам раней, каб мы вучыліся разам па адных падручніках. Гэта нам не ішло на карысць. Некалькі дзён ужо ішлі заняткі, мама прывяла нас пазней: дома была работа. Мы сталі з сястрой, мама пайшла да настаўніцы, вучні выйшлі на перапынак. З трэцяга класа сын памешчыка паглядзеў на нас крытычна: новыя. У мяне былі зацыраваныя панчохі на каленях. Ён убачыў і пачаў смяяцца з маіх панчох. Я павярнулася. А там зацыраваныя пяткі. Ён зноў смяяцца. А мне хацелася плакаць. Ён у матроскай кашулі, кароценькіх штоніках.

Потым нашы дарогі разышліся. У гэтай школе мы вучыліся год. А ў 6 і 7 класах вучыліся разам. Зноў дарогі разышліся. Ён стаў інжынерам, цяпер жыве ў Лодзі. Іншы раз да нас, як да старых суседзяў, прыязджае ў госці. Гаворым, успамінаем, а я ўсё не магу дараваць крыўду, здзекі з маіх панчох. Вельмі заела.

Гаспадарка ў нас была вялікая па тым часе. Бацькі лічыліся самымі адукаванымі. Бацька скончыў народнае вучылішча, а маці — польскіх сем класаў. Усім у акрузе пісалі заявы, прашэнні. Мама многа чытала, бацьку гэта не падабалася (шкада часу), іграла ў шахматы, вышывала, вязала.

Мама была вельмі працавітая. На 23 гады маладзейшая за бацьку. З дзяцінства помню яе ў полі ў фартуху з тоўстага палатна. Калі ішла апоўдні з поля, збірала на ніве вапнавыя камяні, сыпала на крушню, потым звозіў бацька дамоў, рыхтавалі вапну на будаўніцтва дома. Калі ён быў гатовы, усе атрымалі шмат радасці. Прыязджалі госці, на вокнах многа кветак, мэбля вясковая, тканыя палавікі, у пакоях вялікія вокны. Пад акном рознакаляровыя мальвы.

Быў добры сад. Раслі чарэшні, вішні, слівы, яблыні, грушы, ляшчыны, агрэст, парэчкі. Летам фрукты і ягады насілі прадаваць адпачываючым на Нарачы. Нашы аднавяскоўцы насілі таксама масла, сыры. Вельмі злавалі на польскіх паноў, якія ходзяць каля возера з голым пузам. Аказваецца, і цяпер ходзяць у купальніках.

Потым была вайна, партызаншчына, раскулачванне. Мы з сястрой пасля заканчэння сярэдняй школы паціху перабраліся ў Літву. Ведалі польскую мову, працавалі ў польскіх школах. Бацька і брат былі ў турме, мама, цётка і меншы брат — у Казахстане. Потым усе сустрэліся ў Польшчы.

На гадавыя святы мы збіраліся ў доміку бацькоў. Паядзім, удосталь пап'ём і пачынаем успамінаць дзяцінства, сваіх суседзяў, добрых і не вельмі, сваякоў, назвы палёў нашых. Усім было вельмі шкада, калі высеклі наш асінавы лес, раслі на нашым полі два стогадовыя дубы, і іх ужо няма. Быў рабінавы лясок, і яго высеклі на дровы. А ўсё ажывае ў нашай памяці.

Я некалькі разоў бывала на радзіме. Яшчэ стаіць наш дом. У ім размяшчаўся сельсавет. Цяпер жыве адна сям'я. Суседзі, як і мы, састарэлі, нашы аднакласнікі раз'ехаліся па гарадах.

Іншы раз мне хочацца пабываць у Нарачы, на вясковых могілках, паставіць свечку, наведаць Паставы, паглядзець на сваю школу, памаліцца, успомніць сяброўку, якая памерла ў 1949 годзе ад мінінгіту: пеніцыліну яшчэ не было ў аптэках. Там жа пахавана мая класная кіраўніца, настаўніца нямецкай мовы. У Кабыльніку хацела б пабываць у касцёле, у царкве. Пагляджу, можа усё-такі збяруся і паеду.

**Мар'я РУТКОЎСКА-КУПРАН.**
Польшча, г. Кентшын.

ЗНАЁМЦЕСЯ: ФОТАКАРЭСПАНДЭНТ ВІКТАР СТАВЕР



# ПІШУ СВЯТЛОМ

Людзі, людзі... Колькі іх — маладых і старых, сумных і вясёлых — здымаў фотакарэспандэнт "Голасу Радзімы" Віктар СТАВЕР. Ён дакранаецца ў сваіх фотаздымках да іх лёсу. Яны робяцца бліжэй да яго, бліжэй да чытача газеты.

Асаблівa цёплае пачуццё выклікаюць здымкі прыроды. Віктар Ставер заўважае яе разнастайнасць, яе непаўторнасць, яе філасофію. Ён праецыруе яе праявы на чалавека. Ёсць у яго работа "Зламанае жыццё", на фатаграфіі — трэснутае, нагнутае дрэва. Мала каго не кране гэты здымак.

Віктар Ставер здымае Мінск, у якім, дарэчы, жыве ўсё сваё жыццё. Ён умее праз якую-небудзь прыгожую браму, быццам адкрываць нам душу горада.

Калісьці Віктар Ставер вучыўся жывапісу. Цяпер жа ён жартуе, што піша святлом. Сапраўды, хоць у газетнай працы шмат будзённасці і руціны, застаецца месца і прыгажосці, і любові. Толькі апошняе плюс прафесіяналізм можа дапамагчы зняць звычайную бабульку так, што зашчыміць сэрца ў гледача. Ці ўбачыць у лесе не толькі цудоўны пейзаж, які заўважыць кожны, а "Лясныя карункі", міма якіх мы можам часам прайсці, не азірнуўшыся, толькі змахнём з твару раздражняючае павуцінне. А ўбачыш здымак Віктара — і пачнеш глядзець вакол больш уважліва, каб не прапусціць прыгажосць.

**Алена СПАСЮК.**





*Дзед і ўнучка.*



*Дарога на хутар.*



*Налібоцкія зубры.*



*Лясныя карункі.*

«Голас Радзімы»

Рэдакцыйная калегія

Заснавальнікі:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь;
Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.
Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 1 604 экз. Індэкс 63854. Зак. 186.
Падпісана да друку 1. 02. 1999 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.

НАШ АДРАС:
220005, Мінск,
праспект Ф. Скарыны, 44.
Тэлефоны:
(+375-17) 13-31-97,
13-32-80, 13-30-15,
84-76-56, 13-37-82.